№ 1 (6)
жнівень 1998 г.

Год заснаваньня
1922 г
Адноўлена ў 1998 г.

# БЕЛАРУСКІ ПАРТЫЗАН

**газэта для тых, хто любіць лес і Бацькаўшчыну**

Сёньня мы аднаўляем выданьне славутай партызанскай газэты "Беларускі партызан". Гэты перыёдык выдаваўся ў 1922 годзе ў Летуве, дзе ў той час базіраваўся Галоўны Штаб беларускіх партызанаў на чале з атаманам Хмарам-Разумовічам. Транспарты са зброяй і боепрыпасамі, якія йшлі з Летувы ў Заходнюю Беларусь, відаць, і везьлі аддрукаваны наклад газэты ў партызанскія аддзелы... Пасьля таго, як беларуская партызанка была аслабленая цяжкімі баямі з польскімі войскамі, ды пасьля здрады летувіскага ўраду, які адмовіў у далейшай дапамозе беларускім патрыётам, выданьне "Беларускага партызана" перапынілася. Праўда, партызанская барацьба працягвалася яшчэ некалькі гадоў , і на чале беларускіх партызанаў у Заходняй Беларусі стаяў рэдактар "БП" Гэрман Шыманюк - атаман Скамарох...

Аднаўляючы выданьне "Беларускага партызана" мы маем на мэце прапаганду гісторыі Беларускага партызанскага руху, баявога досьведу нашых слаўных змагароў. Мы будзем зьмяшчаць матэрыялы і па тэорыі партызаншчыны, знаёміць нашых чытачоў з сёньняшнімі "гарачымі кропкамі" планеты, дзе актыўна дзейнічаюць сёньняшнія "лясныя браты" і паўстанцы. Ну і, вядома, у "Беларускім партызане" будзе хапаць навін з унутранага партызанскага фронту...

Чытайце й распаўсюджвайце "Беларускі партызан"!

**Рэдакцыя**

## Дзікі мёд

У вайну ў партызанскі год
пад крысом шыняля армейскага
бацька зь лесу прынёс дзікі мёд,
ледзь уцёк ад мядзьведзя расейскага.
З таго часу, як лесам іду,
дык пільнуюся вока зладзейскага,
скурай чую бяду, як ваду,
за сьпіною — мядзьведзя расейскага.
Дасюль пахне яму дзікі мёд.
Годзь гарэшнікі нашыя лушчыць!
Адкапаю пайду кулямёт,
каб хадзіць сьмела ў бацькавай пушчы.

**Анатоль СЫС**

## Славутыя беларускія партызаны



45 гадоў назад маскоўска-бальшавіцкія акупанты замардавалі Беларускага Героя, сябру Рады БНР Янку Філістовіча (1926 — 1953). Вярнуўшыся нелегальна на Бацькаўшчыну з Захаду ў 1952 годзе, ён арганізаваў партызанскую групу на Маладэчаншчыне, выдаваў антысавецкія ўлёткі й падпольную газэту "Жыве Беларусь!".

Сьветлая памяць!

# “Мы прымусім загаварыць аб сабе ўвесь сьвет...”

Часта даводзілася і даводзіцца чуць, што незалежнасьць беларусам дасталася бяз ніякіх намаганьняў зь іх боку, бязкроўна. Што народ наш ніколі і не думаў змагацца за сваю свабоду і незалежнасьць... Ці так было на самой справе? Беларусы, як і літоўцы, і украінцы, а зусім нядаўна й чачэнцы, ня раз даказвалі, што ўмеюць змагацца ня толькі за кавалак хлеба й каўбасы, але й за сваю зямлю і свабоду. І не пад чырвонымі або чырвона-зялёнымі сьцягамі, а пад нацыянальнымі — бел-чырвона-белымі. Пры гэтым сродкі барацьбы былі самыя разнастайныя: ад палітычных выступаў да дыверсій і тэрарыстычных актаў. Былі нашыя дзяды не такімі талерантнымі, як мы...

Паўстанцы Кастуся Каліноўскага, дрэнна ўзброеныя і мала дасьведчаныя ў вайсковай справе, на працягу 1863 года вялі няроўнае змаганьне з прафэсійным маскоўскім войскам, якое было ў шмат разоў большае за паўстанцкія аддзелы й мела артылерыю. Але й у такой сытуацыі беларусы, шырака выкарыстоўваючы партызанскую тактыку, наносілі маскалям адчувальныя страты. Рэйдавыя аддзелы паўстанцаў даходзілі да ўсходняй Беларусі, дзе ў красавіку захапілі павятовы горад Горкі. Усё ж паўстаньне пацярпела паражэньне й было патоплена ў крыві беларускіх патрыётаў... Наш нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі пісаў перад сьмерцю ў сваім запавеце: “... Вакой, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе”.

Тэрарызм здавалася-б не ўласьцівы “талерантным” беларусам, але гісторыя сьведчыць зусім аб іншым. Першым беларускім тэрарыстам можна назваць народавольца Ігната Грынявіцкага, які 1 сакавіка 1881 года забіў расейскага цара Аляксандра другога. У XX стагодзьдзі беларускія тэрарысты таксама спрабавалі забіць крамлёўскага ўладара, але пра гэта крыху пазьней.

У часы Беларускае Народнае Рэспублікі найбольшы ўплыў мела Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якая заклікала сялянства змагацца “за вольную Беларусь без паноў і камуністаў”. І беларускія стралялі і польскіх легіянераў, і бальшавіцкіх камісараў. Стралялі і ў вайну, і пасьля яе... У Заходняй Беларусі на пачатку 20-х гадоў дзейнічаў атаман Скамарох (Герман Шыманюк), які на Беласточчыне і Гарадзеншчыне наводзіў жах на польскіх асаднікаў і ўрадоўцаў. Гэта ён у сакавіку 1922 года выслаў ультыматум самому Язэпу Пілсудзкаму (!), у якім патрабаваў вывесьці польскія войскі з беларускіх земляў і прызнаць незалежнасьць Беларусі. У адваротным выпадку, ён пагражаў, што “за вынікі, якія яны ні стануцца, мы не адпавядаем. Мы не хочам пагражаць Вам, а папераджаем, што непрызнаньне нашых справядлівых дамаганьняў пацягне за сабой страшныя вынікі. Мы прымусім загаварыць аб сабе ўвесь сьвет. Мы прыймем самыя страшныя і самыя зьніштажаючыя спосабы і дзеля таго, што з рэгулярнай арміяй змагацца нам цяжка ў адкрытай бітве, то мы застасуем наша адкрыцьцё... Вы закрычыце аб нашым зьверстве і негуманнасьці, але мы лапатнікі-сяляне выдуманых зьдзекаў ня ведаем, а зробім тое, што мы ўзналі і што нашы рады забясьпечыць і вас загубіць...”

На пачатку 1920-х гадоў у БССР шмат крыві папсавалі камуністам партызанскія аддзелы ваінізаванай сялянскай арганізацыі “Зялёны Дуб” на чале з пісьменьнікам-рамантыкам, атаманам Дзяргачом (Вячаславам Адамовічам). Даходзіла да таго, што вакол Менску чырвонаармейцы пачыналі капаць акопы... А беларускае войска генэрала С. Булак-Балаховіча? А слуцкія паўстанцы 1920 года? І яны вялі пасьпяховыя баі з бальшавікамі, перамагаючы ня колькасьцю, а ўменьнем і сваім патрыятызмам.

Падчас Другой сусьветнай вайны сотні тысяч беларусаў удзельнічалі ў супраціўленьні фашыстоўскім акупантам. Гераізм беларускіх партызанаў ведамы ва ўсім сьвеце. Праўда, ваявалі яны пад рознымі сьцягамі, але за сваю зямлю... Славуты аддзел імя атамана Нябабы, які арганізаваў Якуб Харэўскі, дзейнічаў на Палесьсі з 1941 да 1948 года. Спачатку беларускія партызаны змагаліся супраць немцаў, а пасьля супраць бальшавікоў. Скончыўшы партызанку, “нябабаўцы” перабраліся на Захад.

Напрыканцы вайны ва Усходніх Прусах быў сфарміраваны дэсантны батальён беларускіх “камандас” на чале з маёрамі Іванам Гелдай і Ўсеваладам Родзькай. Беларускія дэсантнікі, на заклік Беларускай Незалежніцкай Партыі “Здабудзем незалежную Беларускую Дзяржаву, або загінем у барацьбе за яе!”, вярталіся на Бацькаўшчыну, каб арганізаваць антысавецкі партызанскі рух. Нацыянальны супраціў маскоўскім акупантам на Беларусі ачоліў генэрал Міхал Вітушка, які за кароткі час зарганізаваў партызанскую армію, ведамую пад назовам “Чорны Кот”. Яго баявікі яшчэ ў 50-х гадах наводзілі жах на акупантаў і мясцовых калябарантаў. У кастрычніку 1948 г. беларускія й украінскія патрыёты арганізавалі замах на Сталіна, які скончыўся няўдачаю — тэрарысты сваю задачу выканаць ня здолелі і загінулі...

Прыйдзе час, і кожны школьнік будзе ведаць, што мы, беларусы, ва ўсе часы ўмелі даць адпор захопнікам. А традыцыі беларускай партызаншчыны будуць жыць вечна!

**Васіль ЛЕСАВІК**

# Мінаючы год

Мінае яшчэ адзін цяжкі для нашай Бацькаўшчыны год, уплывае ў вечнасьць. Мімаволі хочацца зірнуць назад, агледзець духоўным вокам уцякаючую прошласьць.

Сьлёзы і кроў нашы ў мінаючым гаду папярэдняму ліліся пад бізунамі і шампаламі польскіх насільнікаў, якія цемраю сядзяць на шыі нашага народу, як сядзелі, абдзіраючы і гнэмблячы безпатольны народ.

Але ў гэтым цяжкім гаду было шмат і сьветлага — такога, што выявіла нашу моц.

Калі раней польскія наездцы бязбоязна разгульвалі па нашай Старонцы, у мінаючым гаду іх пастрымалі сыны нашага Народу. Не адна бязглуздая польская мазгаўня апынулася ў кустох ад мяча паўстаўшых нашых сыноў і братоў — **Беларускіх Партызанаў.**

Мы сьмела можам сказаць, што мінаючы год прымусіў варшаўскіх заправілаў задумацца і моцна задумацца...

Узлятаўшыя масты, дымам пайшоўшыя абшарніцкія маёнткі, расстраляныя намі служкі польскіх гвалтаўнікоў — жандары ды іншая погань, — усё гэта паказала вельможным паном, што **жыве наш Народ і будзе жыць**; што гэты народ ужо ня стада, якім можна кіраваць, як хочаш, а што ён часова спаў, а цяпер устае і распраўляе свае спутаныя члены.

Толькі невялікая частка сыноў Нашай Зямлі схапіліся за аружжа, а ўжо абшарнікі польскія пакідаюць маёнткі і бягуць у Варшаву. А што будзе тады, калі ўвесь народ устане і пачне **ачышчаць** зямлю сваіх дзядоў і прадзедаў?

Прапускаючы гэты стары і разам **новы** для нас год, мы кажамо: вечны спакой нашым Братом, што ляглі ў мінаючым гаду ахвяраю за Родную Старонку! А жывым змагаром напамінаем, што мы павінны цьвёрда стаяць на варце інтарэсаў Бацькаўшчыны аж да тых пор, пакуль астатні польскі крумкач ня ляжа пад нашаю куляю, памятаючы, што гэты шчасьлівы момант не за гарамі...

**Г. П.**

Беларускі партызан, № 4-5, лістапад-сьнежань 1922 г.



# Лёзьненскія партызаны

Дзёрзкую акцыю правялі ў ноч зь нядзелі на панядзелак невядомыя апазіцыянеры ў райцэнтры Лёзна Віцебскай вобласьці.

...землякі легендарнага Мірона аблілі чырвонай фарбай статую Леніна на цэнтральнай плошчы горада і падпалілі танк часоў Другой сусьветнай вайны (ён стаіць у якасьці помніка каля шашы Віцебск—Смаленск). На будынку побач з запэцканым помнікам Ільічу красаваўся надпіс "Ленін — не Хрыстос,а д'ябал", а каля танка быў напісаны заклік наступнага зьместу: "Беларусь — у Эўропу, танкі — у Расею. Рубон!" (Рубон — гэта старажытны покліч беларускіх рыцараў). Лёзьненскія міліцыянты цяпер актыўна шукаюць "зламысьнікаў".

**Навіны,**
№ 43, 24 красавіка 1998

# Па сьлядох "Беларускага Вызвольнага Войска"

У 1997 годзе ўпершыню заявіла пра сябе дагэтуль невядомае "Беларускае Вызвольнае Войска". Абстрэл з аўтамата расейскае амбасады ў Менску, выбухі на газаправодзе і ў будынку суда, інцындэнт ў Стакгольме.


Так выглядае «праца» БВВ

Гэта пералік падзей, зьвязаных з дзейнасьцю гэтай таямнічай арганізацыі. Аднак і сёньня пераважае думка скептыкаў, што БВВ — гэта ўтварэньне лукашэнскаўскіх сьпецслужбаў. Іншыя ж упэўнены, што гэта дзеіць група беларускіх патрыётаў, адчайных хлопцаў, якія ў сваёй дзейнасьці ўжываюць усе сродкі, у тым ліку і тэрор.

Пройдзе час і мы даведаемся, хто ж хаваўся за шыльдай "Беларускага Вызвольнага Войска". А пакуль... будзем сачыць за яго дзейнасьцю, калі яна, канешне, будзе працягвацца...

**Пятро САМАСТРЭЛ**

# Весткі з партызанскіх франтоў

Як перадаюць замежныя інфармацыйныя агенствы, апошнім часам уактыўнілася партызанская дзейнасьць Арміі Вызваленьня Косава, якая вядзе няроўнае змаганьне супраць сэрбскай паліцыі й сьпецвойскаў. Захад уважліва сочыць за разьвіцьцём падзеяў і спрабуе паўплываць на сытуацыю. Хіба албанскіх партызанаў у адсутнасьці адзінага кіраўніцтва, зь якім хацеў бы весьці перамовы Захад. Расея адкрыта стала на бок сэрбаў, абвінавачваючы АВК у "тэрарыстычнай дзейнасьці". А вось суседняя Альбанія не пакідае сваіх братоў у бядзе й дапамагае ім зброяй, медыкаментамі, інструктарамі й іншым.

З Каўказа прыйшлі весткі пра змаганьне грузінскіх хлопцаў зь "Белага Легіёну" ды іншых атрадаў супраць абхазаў. Грузіны праводзяць дыверсыйныя акцыі на камунікацыях і нават уступаюць у адкрытыя бойкі з ворагам. Зьдзяйсьняюцца напады й на расейскіх вайскоўцаў.

# "Гаворыць "Вольная Беларусь"...

Добрая вестка надыйшла з Польшчы. Як нам стала вядома, неўзабаве пачне свае перадачы з беларускага горада Беласток (часова акупаваны суседняй дзяржавай) радыё "Вольная Беларусь". Радыё будзе працаваць на сярэдніх хвалях па 8 гадзін штодзень. Так што, будзем слухаць вольнае беларускае слова ў нашых бункерах. Жыве Беларусь!

*Наш конкурс*

# "Самы мужны партызан"

З гэтага нумара мы распачынаем конкурс на самага мужнага партызана ў найноўшай гісторыі. Пры выбары пераможцы перавага будзе аддавацца тым "зялёным", якія найбольшы час партызанілі або скрываліся ад ворага, мужна пераносячы ўсе цяжкасьці й нягоды свайго становішча, ды ня здрадзілі ідэалам (прысязе), за якія змагаліся.



**Кандыдат № 1**

Жаўнер японскай імператарскай арміі Саічы Іакоі (на здымку). Ён праславіўся тым, што 26 гадоў пасьля заканчэньня вайны скрываўся ў джунглях вострава Гуам, нічога ня ведаючы пра вынік ваенных дзеяньняў і капітуляцыю Японіі. 25 студзеня 1972 года Саічы Іакоі выпадкова быў знойдзены мясцовымі рыбакамі, пасьля чаго яго перадалі на Бацькаўшчыну. Памёр японскі жаўнер у верасьні 1997 г. ва ўзросьце 82 гадоў.

**Слова "партызанка" для сучаснага жыхара Беларусі асацыюецца з чалавекам у ватніку з ППШ, лясамі і зямлянкамі. Але ў нашую ўрбаністычную эпоху гераічная партызанка не згубіла сваёй актуальнасьці, набыўшы новыя формы. Нашымі лясамі сёньня ёсьць гарадзкія шматпавярхоўкі, зямлянкамі — уласныя кватэры ці пакоі ў інтэрнатах, партызанскімі сьцежкамі — вуліцы і двары... З новым, партызанскім годам вас, дарагія таварышы!**

# Кансьпірацыя, баценька, або барацьба працягваецца!

Задача нумар адзін у сёньняшніх умовах — гэта стварэньне мабільных партызанскіх груп па ўсёй краіне. Вяснова-восеньскі пэрыяд барацьбы давёў, што голае спадзяваньне на стыхійнасьць супраціўленьня, мяка кажучы, не апраўдвае сябе. Час вольных тусовак на дэманстрацыях беззваротна адыйшоў у нябыт. Ня трэба імкнуцца ўступаць у існуючыя ўжо арганізацыі, асабліва ваенізаваныя — большасьць зь іх пад каппаком КГБ. Дзейнічайце самастойна! Падбірайце сабе ў паплечнікі тых, каго добра ведаеце і якія здольныя рызыкаваць. Аптымальная колькасьць групы 3-5 чалавек. Не сьпяшайцеся, класік казаў: "Кадры вырашаюць усё!"

Стварыўшы ж такую групу трэба адразу дзейнічаць, каб загартаваць свае шэрагі, зразумець, хто чаго варты. Пачынаць можна з наступных рэчаў:

— расклейваньне ўлётак антыўрадавага зьместу;

— графіці (распісваньне сьцен);

— зьнішчэньне сымбаляў рэжыму ў публічных месцах;

— арганізацыя "цёмнай" для стукачоў

і іншыя акцыі ў адпаведнасьці з вашай вынаходлівасьцю і густамі. Сэнс дзеяньня на пачатковым этапе — прызвычаіцца да пачуцьця рызыкі і небясьпекі. Псіхалагічна трэба рыхтавацца да больш сур'ёзных дзеяньняў, чытаць адпаведную літаратуру, цікавіцца хіміяй.

Галоўны чыньнік посьпеху — глыбокая падпольнасьць вашага дзеяньня. Аддавайце належную ўвагу кансьпірацыі. Вось некалькі простых парад для захаваньня вашага "incognito".

1) Ніколі не абмяркоўвайце сваіх планаў і пытаньняў, зьвязаных з "дзелам" у прысутнасьці пабочных людзей, таксама не кажыце нават намёкамі праз тэлефон;

2) Вашыя знаёмыя не павінны здагадвацца пра вашы інтарэсы і сувязі на гэтай глебе з іншымі сябрамі групы;

3) Выпраўляючыся на акцыю, не хадзіце больш за тры чалавекі, вашыя паводзіны не павінны прыцягваць увагі навакольных, стройце з сябе добрасумленных грамадзянаў;

4) Пасьля акцыі ніколі нікому не хваліцеся, што і з кім вы рабілі сёньня ўначы між 24 і 3 гадзінамі;

5) Варта распрацаваць сістэму пароляў і тэрмінаў, якімі вы будзеце карыстацца між сабой (каб засьцерагчыся падслухоўваньня).

Помніце: невядомасьць вашых падзельнікаў — асноўны момант дзейнасьці.

Надавайце ўвагу таксама пошукам кантактаў з аналагічнымі групамі. Сувязь з іншымі групамі патрэбная дзеля каардынацыі дзеяньня, абмену досьведам, выпрацоўкі нейкіх агульных ідэалагічных установак (што немалаважна). Тэхналогія падтрыманьня кантактаў такая:

а) прадстаўнік іншай групы павінен ведаць з вашай групы толькі Вас (таго, хто наладзіў кантакт), і нікога больш!

б) адпаведна, не намагайцеся пазнаёміцца з іншымі сябрамі іншай групы — Вас могуць палічыць за правакатара.

в) сувязнога не павінны ведаць вашы сябры групы, аднак пра кантакты зь ім вы павінны паведамляць.

г) пры любых падазроных паводзінах сувязнога трэба абарваць кантакт.

На заканчэньне дадам: Ваша дзейнасьць будзе ўнёскам у агульную справу вызваленьня.

Супраціўляйцеся!

**Таварыш П.**
**Моладзь змагаецца!,**
**№ 2, сьнежань 1996.**